№ 1(583)

Аўторак, 5 студзеня 1999 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 5000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб Колас

# Народная Воля

Lintec Computer

Газета сверстана на компьютерах фирмы "ЛИНТЕК"

ООО Экопроммеханизм

ЭЛЕКТРОТЕХНИКА от "А" до "Я"

Тел./факс:(017) 283-65-70, 269-52-13, 268-03-95.

Diana. Белая магия черного чая! Tjibuni JAVA. 98. Диплом Потребительских симпатий. (02144) 91735, 92315

ЭЛЕКТРОТЕХНИЧЕСКАЯ ПРОДУКЦИЯ ELPROD Тел. (017) 264-26-71.

Пейджинговую связь редакции обеспечивает МОБИЛКОМ пейджинг-система (017) 222-46-51 (017) 222-46-52

## Ліст галоўнага рэдактара

### І ЎСЁ Ж – ВЫЖЫВЕМ!



З Новым годам!
З Калядамі!
Шчасця Вам!

Простыя і шчырыя словы... Іх чуваць паўсюль у гэтыя першыя студзеньскія дні. Прыміце, шаноўныя сябры, і мой нізкі паклон! Як хочацца, каб у Вас усё ладзілася, нішто не азмрочвала настрой! Мір Вашаму дому, шаноўныя прыхільнікі "Народнай волі"!

І дзякуй Вам за падтрымку! Як і раней, Вы — з "Народнай воляй", "Народная воля" — з Вамі! Радуюць вынікі падпіскі — нягледзячы на складаныя абставіны, абсалютная большасць з Вас вырашыла і ў 1999-м працягнуць руку на дружбу адзінай у рэспубліцы штодзённай незалежнай газеце. Ёсць нямала і новенькіх падпісчыкаў.

Не нашая віна, што напярэдадні Новага года мы на некалькі дзён разлучыліся з Вамі. Па вядомых прычынах выбіліся з каляі ўсе — і дзяржаўныя выданні, і недзяржаўныя. Нялёгкія выпрабаванні чакаюць газеты і сёлета. Не жартачкі — кошт тоны паперы ўзляцеў ужо за 200 мільёнаў рублёў! На пачатку мінулага года ён быў недзе ў межах 13—14 мільёнаў "зайчыкаў".

А тут яшчэ дыскрымінацыя з боку ўлады. Да сённяшняга дня нам не дазваляюць тыражавацца ў "лукашэнкаўскай" друкарні, дзе тарыфы значна ніжэйшыя, чым у прыватнай, якая валодае адным зношаным станочкам. Вялікія страты даводзіцца несці на перавозку аддрукаванай газеты ў экспедыцыю, што месціцца на пляцоўцы таго ж "Беларускага Дома друку".

І ўсё ж — выжывем! Не маем права не выжыць! Вакол віруе цікавае, насычанае падзеямі жыццё і людзям, як ніколі, патрэбна аб'ектыўнае, праўдзівае слова. Мы яму не здраджвалі з першых дзён выдання "Народнай волі", не здрадзім і цяпер.

Мільён клопатаў у галоўнага рэдактара. Але лічу выкрасленым з жыцця той дзень, калі не ўдаецца пачытаць Вашыя лісты, шаноўныя сябры. Яны — наш кісларод, наш арыенцір. Прабачце толькі за тое, што не маем магчымасці надрукаваць кожнае пісьмо, кожны Ваш радок. Вы ж ведаеце: вось ужо некалькі гадоў "Народная воля" з'яўляецца ў краіне адзінай штодзённай недзяржаўнай газетай і пошта яе настолькі багатая, што не ўяўляецца рэальным змясціць на яе старонках усе дасланыя лісты. Не крыўдуйце і за тое, што толькі ў рэдкіх выпадках мы ўступаем у канцылярскую перапіску. Усе нашыя сілы, намаганні падпарадкаваныя аднаму — падрыхтоўцы змястоўных, разлічаных на шырокую грамадскую аўдыторыю нумароў.

У журналістаў "Народнай волі" столькі творчых задумак, што іх, здаецца, хапіла б на некалькі выданняў. Канечне ж няма сэнсу сёння пра іх расказваць, паколькі ўжо ў бліжэйшых нумарах многія з іх знойдуць сваё адлюстраванне. Скажу толькі: мы паранейшаму застаёмся прыхільнікамі той цвёрдай, бескампраміснай пазіцыі, якую заняла газета з першых дзён свайго існавання.

Мы змагаліся і будзем змагацца за Беларусь!

Мы змагаліся і будзем змагацца за яе нацыянальнае адраджэнне.

Мы змагаліся і будзем змагацца за пабудову дэмакратычнай суверэннай дзяржавы з моцнай эканомікай, з высокім дабрабытам людзей.

Мы адстойвалі і будзем адстойваць правы кожнага чалавека!

Для нас няма забароненых тэм. Але ёсць адказнасць за напісанае слова, якая не дазваляе хлусіць, якая не дазваляе крывіць душой. Вы, шаноўныя сябры, не раз заўважалі, як мы балюча рэагуем на любую дапушчаную памылку, на любую недакладнасць. Вядома ж, у тых найскладанейшых умовах, у якіх мы працуем, пазбегнуць іх, бадай, немагчыма. Але і хаваць іх, не заўважаць — не наш прынцып.

Што для мяне, галоўнага рэдактара незалежнага выдання, самае галоўнае? Каб Вы, паважаныя чытачы, не гублялі веру ў газету. Скажу шчыра: я страшэнна перажываю, калі сутыкаюся са здрадай, з якога боку яна б ні зыходзіла. Але жыццё настолькі складанае, людзі настолькі розныя і з такімі таямнічымі душамі, што цяжка спрагназаваць, што цябе чакае заўтра, праз месяц, праз год...

І ўсё ж закончыць гэтыя радкі хочацца на аптымістычнай ноце. "Народная воля" будзе і надалей Вашай любімай газетай. Я Вам, мае добрыя, мілыя людзі, не здраджу ніколі.

Жыве Беларусь!

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**галоўны рэдактар газеты "Народная воля".**

# Як крамлёўскае рэха адгукаецца на Беларусі

## Заява кіраўніцтва БНФ "Адраджэнне"

25 снежня 1998 г. Б.Ельцын і А.Лукашэнка падпісалі ў Маскве шэраг дакументаў, дзе засведчана імкненне стварыць у другой палове 1998 года нейкую "саюзную дзяржаву" ў складзе Расіі і Беларусі.

Прычынаю ліхаманкавай "інтэграцыйнай" актыўнасці прэзідэнтаў Расіі і Беларусі стаў эканамічны крах і палітычнае банкруцтва рэжымаў, якія яны ўзначальваюць. Прыняты ў першым чытанні бюджэт Расійскай Федэрацыі — тыповы бюджэт краіны "трэцяга свету", які ставіць гэтую імперыю на мяжу канчатковага развалу. Інкарпарацыя Беларусі — гэта спроба імперскага рэжыму самазахавацца.

А.Лукашэнка фактычна знішчыў беларускую Канстытуцыю, законнасць, нацыянальную валюту, вынішчае беларускую культуру, мову, гістарычную памяць. У першай палове 1998 г. у Беларусі, паводле легітымнай Канстытуцыі, павінны адбыцца прэзідэнцкія выбары. Лукашэнка, баючыся свабодных дэмакратычных выбараў, дзеля захавання ўлады і магчымасці змагацца за лідэрства ў Расіі ідзе на ліквідацыю беларускай дзяржаўнасці.

У гэтых варунках прэзідэнты дзвюх краін падпісваюць дакументы, якія пярэчаць не толькі нормам міжнароднага права, але і дзейсным Канстытуцыям Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь.

Б.Ельцыну добра вядома, што ў Беларусі адсутнічаюць усялякія падставы для свабоднага волевыяўлення народу, каб законным чынам ажыццявіць змены ў Канстытуцыі. У Беларусі дзесяткі палітычных зняволеных. Прэзідэнцкія структуры зманапалізавалі ўсе электронныя СМІ. Усялякая апазіцыя рэжыму жорстка пераследуецца. Між тым, як паказваюць сацыялагічныя звесткі, не менш як тры чвэрці беларускага насельніцтва не падтрымліваюць ідэю аб'яднання Расіі і Беларусі ў адну дзяржаву. Відавочны разлік на фальсіфікацыю народнага волевыяўлення.

Беларускі народны фронт "Адраджэнне" ацэньвае гэтыя крокі Лукашэнкі як дзяржаўную здраду. Мы зробім усё, каб адстаяць аплачаную крывёю продкаў незалежную беларускую дзяржаўнасць. Здраднікі і злачынцы будуць непазбежна пакараныя ў адпаведнасці з законам. Заклікаем усе дэмакратычныя незалежніцкія сілы згуртавацца на падмурку абароны незалежнасці Беларусі.

## Заява Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада)

За два гады пасля таго, як А.Лукашэнка ўчыніў канстытуцыйны пераварот, Беларусь даведзена да эканамічнай катастрофы. Звышінфляцыя, каласальны дэфіцыт знешнегандлёвага балансу, адсутнасць у крамах самых неабходных тавараў, міжнародная ізаляцыя — вось вынікі аднаасобнага і бескантрольнага кіравання дзяржавай. Замест таго каб зрабіць з гэтага аб'ектыўныя высновы і вярнуцца да падзелу ўладаў, даць магчымасць законнаму парламенту сфарміраваць кампетэнтны ўрад, пайсці на чарговыя прэзідэнцкія выбары і трымаць адказ перад народам, А.Лукашэнка пайшоў на беспрэцэдэнтны крок. Ён спрабуе ўцячы ад беларускіх праблем, прарваўшыся да ўлады ў суседняй краіне. Суверэнітэт Беларусі, гарантам якога згодна з любой Канстытуцыяй з'яўляецца прэзідэнт, ён спрабуе выкарыстаць у якасці платы за магчымасць удзельнічаць у барацьбе за ўладу ў Маскве. Пад увагу ўжо не бяруцца інтарэсы беларускага народа, якому пагражае магчымасць апынуцца ў віры яшчэ і расійскіх праблем — жахлівай карупцыі, экстрэмізму, войнаў.

Створана ганебная сітуацыя, калі галоўнай пагрозай для незалежнасці і будучыні дзяржавы стаў яе прэзідэнт.

БСДП заяўляе, што 25 снежня прэзідэнтам Лукашэнкам здзейснены акт дзяржаўнай здрады. Лукашэнка паставіў сябе па-за законам і не можа болей з'яўляцца законным прэзідэнтам краіны. БСДП будзе імкнуцца любымі сродкамі адхіліць здрадніка ад улады.

БСДП заклікае ўсе патрыятычныя сілы краіны да кансалідацыі і лічыць, што яе прапанова аб ператварэнні Кангрэсу дэмакратычных сіл у пастаянна дзейны рух павінна быць здзейснена неадкладна.

БСДП заклікае грамадзян да арганізаванага пратэсту супраць спроб Лукашэнкі аплаціць свой шлях да маскоўскай пасады будучыняй і дабрабытам нашага народа і нават крывёю нашых дзяцей.

БСДП заяўляе аб намеры арганізаваць масавыя акцыі пратэсту пад лозунгам "Супраць здрады і жабрацтва". Старшынёй партыі ўжо пададзена заяўка на дэманстрацыю і мітынг 17 студзеня 1999 года. Мы заклікаем іншыя дэмакратычныя сілы ўзяць удзел у падрыхтоўцы і правядзенні гэтай акцыі і заяўляем аб падтрымцы акцый пратэсту іншых патрыятычных арганізацый.

Беларускія сацыял-дэмакраты поўныя рашучасці адстаяць незалежнасць сваёй Бацькаўшчыны.

Жыве Беларусь!

## Открытое письмо

*Его Превосходительству Президенту Российской Федерации Ельцину Б.Н.*

Уважаемый Борис Николаевич!

Мы обращаемся к Вам как к Президенту и Человеку, чьи заслуги в деле утверждения прав человека, демократии и разрешения многих национальных вопросов на постсоветском пространстве вызывают чувство искренней благодарности.

Однако в сложном сталинском наследии трудно избежать ошибок и упущений, и, к сожалению, даже Вы — Президент России — не смогли устоять перед большевистской напористостью и шаманскими заклинаниями заурядного директора совхоза, ставшего по иронии судьбы белорусским президентом.

В исторический день 8 декабря 1991 года Вы поставили свою подпись под Беловежскими соглашениями, которые положили конец имперским притязаниям России на Украину и Беларусь и обозначили новую, неимперскую веху во взаимоотношениях наших народов. Этот акт был сразу же ратифицирован парламентом России и незамедлительно получил всеобщее международное признание.

Нельзя не понимать, что любое изменение государственного статуса Республики Беларусь, которое пытается осуществить окончательно обанкротившийся режим Лукашенко, не может считаться легитимным, так как сам этот режим перестал быть законным после ноябрьского государственного переворота 1996 года, осуществленного при поддержке Черномырдина, Строева и Селезнева.

Проектируемое изменение государственного статуса Республики Беларусь противоречит действующей Конституции 1994 года, и мы — белорусы — будем рассматривать его как оккупацию Беларуси Россией. Думается, что и реакция международного сообщества будет адекватной действиям России.

Оккупировав Беларусь, Вы поступите так, как поступил Сталин с Литвой, Латвией и Эстонией, и посеете в Беларуси зерна вражды к народу, который имеет все основания продолжать оставаться дружественным, а сам виртуальный "союз" ускорит цепную реакцию в российских регионах по изменению их государственного статуса. Об этом уже заявили президенты Татарстана и Ингушетии. И вряд ли после Чечни у кого-то из россиян осталось желание отстаивать "конституционный порядок" в пока еще субъектах Российской Федерации.

Мы надеемся, что Вы, как человек, чьи заслуги в деле преодоления нашими народами последствий коммунистического тоталитаризма общеизвестны, не хотите рисковать единством такого огромного геополитического пространства и не позволите кому бы то ни было ставить под угрозу будущее России.

**Депутаты Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва:**
**Семен ШАРЕЦКИЙ, Председатель Верховного Совета Республики Беларусь с 1996 г.;**
**Мечеслав ГРИБ, Председатель Верховного Совета Республики Беларусь с 1994 по 1996 г.;**
**Станислав ШУШКЕВИЧ, Председатель Верховного Совета Республики Беларусь с 1991 по 1994 г.**

## Стоп-кадр



*Артысты бавяць мінчан на адной з цэнтральных плошчаў.*

Фота IREX/ProMedia.

## Есть предложение...

### Вместо колхозов — общины!

Уважаемая редакция!

В связи с тяжелым положением с сельхозпродуктами, думаю, были бы правильными следующие шаги:

а) отсталые колхозы можно преобразовать в общины с центрами в каждой деревне;

б) технику, постройки, скот колхозов разделить между общинами.

Что это даст? Трактора, машины, скот в общине будут лучше досмотрены. Бензин и дизтопливо община для своей техники как-нибудь приобретет. Поскольку, как сказал когда-то знаменитый В.Старовойтов, в колхозе нет силы, которая могла бы заставить человека по-настоящему работать, то, думаю, пора принять к реализации мой вариант, что приподнимет уровень сельского хозяйства.

**От редакции.** *К сожалению, под этим письмом нет подписи — то ли автор забыл поставить, то ли преднамеренно решил сохранить анонимность. Но столь ли важно авторство? Дела в сельском хозяйстве действительно плохи, и наша задача обнародовать любое предложение...*

## Віншуем!

### Лаўрэаты прэміі імя Анатоля Майсені



Учора, 4 студзеня 1999 года, Анатолю Майсені споўнілася б роўна 40 гадоў.

Не, не верыцца, што ўжо болей за два гады яго няма сярод нас. Як у гэты вырашальны для Беларусі час не хапае яго таленавітых паліталагічных даследаванняў і публіцыстычных артыкулаў!

Такіх, як Анатоль Майсеня, нельга забываць, а таму працягваецца творчы конкурс імя вядомага публіцыста і палітолага, які быў заснаваны газетай "Народная воля", Беларускай асацыяцыяй журналістаў і Беларускай Еўраатлантычнай асацыяцыяй. Сёння мы з вялікім задавальненнем паведамляем вынікі творчага конкурсу за 1998 год.

**Першай прэміяй** ганаруецца публіцыст **Васіль ГРОДНІКАЎ** за артыкулы "Аброць на Беларусь", "Асцярожна, пятая калона", "Страх і дыктатура чэрні" і іншыя.

**Другой прэміяй** ганаруецца публіцыст і драматург **Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ** за артыкул "Хто каму донар і хто ў каго дояр?".

**Трэцюю прэмію** падзялілі выдатнік народнай асветы, ветэран Вялікай Айчыннай вайны **Васіль СОКАЛ** за артыкулы "Апазіцыя і апазіцыянеры", "Барані, Божа, ад такіх "беларусаў" і маёр запасу, журналіст **Аляксандр АЛЬХАВЫ** за артыкулы "Второе пришествие Хама", "Осторожнее на поворотах, товарищ Акулов".

Шчыра віншуем пераможцаў і зычым ім творчых поспехаў у новым годзе!

## Борисов использует новые возможности приватизации

Накануне Нового года в Борисове состоялись два аукциона по продаже объектов коммунальной собственности. Торги были организованы Борисовским городским исполнительным комитетом при технической помощи проекта Международной финансовой корпорации (МФК) "Малая приватизация в Беларуси". МФК осуществляет этот проект благодаря финансовой поддержке Агентства США по международному развитию.

Первый аукцион был проведен по методу повышения начальной цены объектов. В результате нашел нового хозяина магазин №10 Горпищеторга, расположенный по улице Пушкина, 39. Объект продан с условиями сохранения профиля предприятия и числа рабочих мест, а также продления трудовых отношений с работниками магазина. Таким образом, городские власти гарантируют жителям района сохранение предприятия торговли, а коллективу магазина — рабочих мест.

Главным событием "аукционного" дня стали торги с использованием метода понижения начальной цены объекта, так называемый "голландский" аукцион. В Борисове этот метод использовался впервые. На торги были выставлены четыре объекта коммунальной собственности. Все они были куплены с первого выставления.

Торги показали, что "голландский" аукцион — наиболее эффективный способ продажи неиспользуемого и неэффективно используемого имущества города. Включение этих объектов в хозяйственную деятельность позволит пополнить городскую казну дополнительными налоговыми поступлениями.

Таким образом, благодаря разумному сочетанию различных методов проведения аукционных торгов Борисовский горисполком нашел новых собственников для пяти объектов.

В канун Нового года и Рождества организаторами аукционов был подготовлен праздничный лот. Участники и гости торгов боролись за право вручения благотворительной помощи Фонду социальной защиты малообеспеченных граждан "Надежда". Сотрудники Фонда оказывают помощь многосемейным, одиноким и больным людям за счет добровольных взносов граждан, организаций, а также государственных средств. Деньги, вырученные от продажи праздничного лота, а также переданный Фонду подарок будут распределены среди нуждающихся семей города Борисова.

**Дополнительную информацию можно получить в отделе приватизации и управления коммунальной собственности Борисовского горисполкома по тел. (01777) 3-57-22, 3-30-31, а также в Международной финансовой корпорации по тел. (017) 222-44-69.**

## Личное мнение

### ...Чтобы укрыться от разоренного белорусского народа на бескрайних российских просторах...

*Михаил ПОДОЛЯК*

**Впервые встречаю президента, который хочет поменять собственное безграничное царствование на скромненькое такое губернаторство. В этом присутствует, по меньшей мере, неприкрытое лукавство. И без того уже в определенных кругах буквально-таки царит убежденность в том, что подписанием декабрьских московских соглашений Лукашенко пытается переложить на плечи других ответственность за нынешнее плачевное состояние своей республики. Правда, как замечают многочисленные наблюдатели, одно дело декларация об интеграционных намерениях, совсем иное — реальные подвижки в области государственного объедениния. Тем не менее 1999 год вполне может оказаться переломным — либо президент растопчет собственную страну и последняя выступит всего лишь в качестве призового бонуса в его политических играх, либо республика, а проще говоря, сам белорусский народ еще раз однозначно выскажется за суверенитет и независимость. После чего придется, по меньшей мере, менять президента и некоторые внешнеполитические приоритеты.**

**Сегодня самое время сказать власти, что мы хотим жить в суверенном государстве Беларусь. То есть в таком государстве, у которого есть собственные границы, таможни, министерства, национальная валюта, язык и культура.**

**Беларусь, по европейским меркам, вполне состоятельное и перспективное государство. По крайней мере, еще в начале 90-х у нашей республики были весьма неплохие шансы занять достойное место в ряду высокоорганизованных европейских государств. Занять то место, которое сегодня с удовольствием оккупировали наши ближайшие соседи — страны Балтии, Польша и в какой-то мере Украина. В июне 1991 года Верховный Совет тогда еще БССР принял Декларацию о республиканском суверенитете. В конце 90-х президент Лукашенко прямо заявил, что в течение всех этих семи лет белорусская власть всячески стремилась исправить тогдашнюю ошибку — получается, что целых семь лет вместо строительства самостоятельного национального государства власть боролась против своего народа, против государственнических устремлений белорусов.**

**Подписанные в Москве белорусско-российские предновогодние договоренности откровенно отвечают на мой вопрос: "Жить ли мне в суверенной республике?" Скорее всего, не жить. Впрочем, не думаю, что подобное поведение первого президента РБ стало для кого-то особым откровением. Если следовать логике последних четырех лет, вывод уже давно напрашивался неутешительный. Президент и его команда либо не умеют самостоятельно управлять процессами в рамках целого государства, либо нынешний острейший социально-экономический кризис преднамеренно спровоцирован властью, дабы вернуть республику во времена товарного дефицита, безденежья и повальной безработицы. Чтобы обвинить рынок, демократию и свободу в нищете и пустых прилавках. Чтобы ностальгия по сытому советскому времени буквально фонтанировала в еще неокрепших душах познавших свободу.**

**Но готовы ли мы променять собственное государство на призрачные дешевые продукты? По существу, наше предполагаемое объединение с Россией в одно государство ни нам, ни россиянам не сулит ничего хорошего. Разве что на какое-то время белорусский и российский президенты смогут присвоить себе звание заслуженных собирателей земель славянских. Россия сегодня находится в глубочайшем финансовом кризисе. По большому счету, объединение с маленькой по территории и производству Беларусью вряд ли серьезным образом отразится на состоянии России. Всего-то делов — в российском бюджете появится еще один дотационный район. Впрочем, уже сегодня Беларусь находится на серьезных финансовых и сырьевых дотациях российского федерального центра.**

**Что получит Беларусь в итоге присоединения к России, тоже хорошо известно. Вряд ли можно ожидать накачки региона серьезными инвестициями, Россия сама в них крайне нуждается. Вряд ли можно ожидать ослабления продовольственного кризиса в белорусских областях. Да и президент Беларуси Лукашенко вряд ли станет в 2000 году президентом России. Так стоит ли размениваться по мелочам?**

## Я предлагаю...

### Кредиты должны быть возвращены с учетом инфляции

Я знаю, как можно компенсировать потери вкладчиков государственных трудовых сберегательных касс. Сделать это проще простого. Нужно подготовить указ, а президенту А.Лукашенко его подписать. Пусть те, кто брал кредиты, вернет их с учетом инфляции. Это будут деньги тех, у кого их забрали. Подсчитать это легко в долларовом исчислении.

Помню, как на заседании еще Верховного Совета 12-го созыва один из парламентариев поднял этот вопрос. Но большинство депутатов из партийно-номенклатурного клана дружно выступило против, так как они-то в основном и брали кредиты и не думали их возвращать. Мотивировали тем, что не знали, что такое было. Известно, что незнание не освобождает от ответственности. Неправда, что не знали. Если бы не знали, то и не брали бы. К тому же могли иметь кредиты в основном те, кто мог их получить. Простым людям это было не по силам...

**Данил ДАНИЛЕВИЧ,**
**житель Минска.**

## Слышали?

### Странная встреча Геннадия Карпенко с Владимиром Коноплевым

Чего только не бывает в канун Нового года. К неожиданностям можно отнести и встречу председателя Национального исполнительного комитета Г.Карпенко с заместителем председателя так называемой Палаты представителей В.Коноплевым. Всем ведь известно, что Владимир Коноплев является лучшим другом А.Лукашенко, а Геннадий Карпенко — главным его оппонентом.

О чем они говорили более трех часов на квартире у Г.Карпенко, пока никому неизвестно. Хотя, думается, всех интересует, почему верный соратник президента пошел на диалог с непримиримым оппозиционером.

**Иван КАРПИЦКИЙ.**

## Анекдот дня

Какое отличие между Национальным банком Республики Беларусь и валютчиком?

— В Национальном банке доллары покупать можно, но купить их нельзя. У валютчика покупать доллары нельзя, но купить можно.

## Замечено

### Нужен живой электорат

Цены растут. На хорошие продукты, книги — особенно. На водку и картошку — почти не меняются. Понятно. Власти нужен неграмотный, голодный, пьяный, но все же живой электорат.

**Николай ГОДОВ.**

